Магілёўскі цэнтр стратэгічнага развіцця
ІМПУЛЬС
Вырашаем праблемы разам!

Бюлетэнь МЦСР «Імпульс», г. Магілёў, кастрычнік 2013г.

# АЛЯКСАНДР ВЕРАКСА: ВІДАЦЬ ПАДСУНУЛІ НА ПОДПІС АДКАЗ І Я ПАДПІСАЎ НЕ РАЗАБРАЎШЫСЯ

**Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкаму падчас "прамой лініі" адказаў на пытанні жыхароў д.64 па пр-ту Дзімітрава з нагоды яго пісьмовага адказу, паводле якога ён адмаўляе ў будаўніцтве дадатковых паркова к у двары дома.**



Выслухаўшы ўважліва прэтэнзіі ў свой адрас чыноўнік паабяцаў разабрацца.

Прэтэнзіі заключаліся ў тым, што ў 2012 годдзе Аляксандр Веракса даў пісьмовае ўказанне КУП ЖРЭЎ Кастрычніцкага раёна ў 2013 годдзе пабудаваць дадатковыя парковачныя месцы на пляцоўцы паміж д.64 і 64а па пр-ту Дзімітрава. Тады было сабрана 54 подпісы жыхароў д.64.

З пісьмовага адказу камунальнікаў вынікала, што была распрацавана праектна-сметная дакументацыя на будаўніцтва паркоўкі на 35 машына-месцаў.

Калі жыхары ўзгаданага дому ў 2013 годдзе недачакаліся абяцаных паркова к, яны зноўку распачалі збор подпісаў. У выніку пад калектыўнай заявай аб неабходнасці будаўніцтва дадатковых паркова к, а таксама рамонце двара падпісалася 197 чалавек.

Аднак на гэты калектыўны зварот прыйшоў адказ зноўку за подпісам Аляксандра Вераксы, дзе ён адзначае, што выкладзеныя ў калектыўным звароце на адрас гарвыканкама факты спраўджвала спецыяльна створаная камісія, якая апытала жыхароў і 58 чалавек з дома 64 выказаліся супраць паркова к, а таксама капітальнага рамонту двара.

Як стала вядома пазней гэтая камісія патрабавала з людзей 5 мільёнаў рублёў. Хто адмаўляўся прыняць удзел у будаўніцтве паркова к на такіх умовах – яны прасілі падпісацца.

Каментуючы гэту сітуацыю Аляксандр Веракса выказаў здзіўленне, бо паводле яго ў краіне не існуе такога заканадаўства, якое бы дазваляла грамадзянам удзельнічаць у фінансаванні паркова к, ці рамонту двара, хоць на гэтым акцэнтуюць увагу іншыя чыноўнікі.

# ЖЫХАРЫ Д.34, 38, 40, 42 ПА ВУЛІЦЫ 30 ГОД ПЕРАМОГІ Ў 2014 ГОДДЗЕ АТРЫМАЮЦЬ КАСМЕТЫЧНЫ РАМОНТ

**Актывісты Цэнтра "Імпульс" атрымалі пісьмовы адказ за подпісам галавы адміністрацыі Ленінскага раёна Магілёва Лаўрыновіча.**

У адказе гаворыцца, што каля д.34 каля пад'ездаў №2 і №3 ёсць выбаіны і адсутнічаюць бардзюры. Пры фарміраванні плана на 2014 год пытанне аб рамонце гэтых месцаў будзе ўзнята.



Дарожна-маставому прадпрыемству быў накіраваны ліст з просьбай прыняць меры, каб закрыць даждавы калодзеж металічнай краткай каля пад'езду №1 д34.

Акрамя таго ЖЭУ-15 выяўляе ўласнікаў металічных гаражэй, якія знаходзяцца ў тарцы д.34, з мэтай іх дэмантажа.

Каля пад'ездаў №1 і №4 у 2014 годзе плануецца ўсталяванне лавак. Да канца года плануюць адрамантаваць дзіцячую пясочніцу ў дварах д.38, 40 і 42, а таксама ў 2014 годдзе пафарбаваць дзіцячую іграву ю пляцоўку.

Лаўкі ж каля пад'ездаў д. 38 і 40 усталёўваць не плануецца (яны раней былі), аднак у 2014 годзе плануюць адрамантаваць бардзюры.

Паркоўкі, паводле адказу чыноўніка, і пашырэнне праезнай часткі выконваецца МДКУП "Упраўленне капітальнага будаўніцтва" пры капітальным рамонце, якія пакуль не плануецца.

# ЗАМЕСТ ПАРКОЎКІ – ТРАЎКА, ЗАМЕСТ СВЕТЛАФОРА – ДАРОЖНЫ ЗНАК І РАЗМЕТКА

**Жыхары д.64 па пр-ту Дзімітрава ў Магілёве працягваюць здзіўляцца працы камунальнікаў і супрацоўнікаў ДАІ.**





Пасля таго, як 199 подпісаў мясцовых жыхароў за ўсталяванне светлафору было выслана ў ДАІ з патрабаваннем усталяваць светлафор на выездзе з мясцовага праезду на пр-т Дзімітрава на самым выездзе з'явіўся дарожны знак і разметка, аднак светлафор усталяваны так і не быў.

"Светлафор тут патрэбен ад самага пачатку існавання раёну – у гэтым месцы людзі заўжды пераходзюць дарогу, бо да суседніх пешаходных пераходаў ісці дужа далёка. Акрамя таго тут пастаянныя аварыі", - гаворыць жыхар дому Міхаіл.

Тым часам ДАІ лічыць, што трэба, каб было мінімум тры аварыі на год у гэтым месцы, каб яны задумаліся аб усталяванні светлафору, а па іх звестках з 2008 году ў гэтым месцы не было ні адной аварыі.

"Іх адказ пра адсутнасць аварый - поўная хлусня. Я сам з'яўляюся сведкай як на працягу некалькіх год у гэтым месцы было 4-5 аварый. З гэтай нагоды буду пісаць скаргу ў вышэйстаячую інстанцыю", - гаворыць жыхар д.64 па пр-ту Дзімітрава Ігар Барысаў.

Трэба адзначыць, што 197 подпісаў жыхары д.64 і 64а з патрабаваннем будаўніцтва дадатковых парковачных месцаў былі накіраваны ў Магілёўскі гарвыканкам. Яшчэ на стадыі разгляду звароту ў двары пачалі адбывацца змены – нагналі самазвалаў, мінібульдозераў, рабочых-будаўнікоў, якія пачалі нешта рабіць недалёка ад д.64. Жыхары абрадаваліся, што пачалося будаўніцтва паркоўак, якіх катастрафічна не хапае, аднак аказалася, што там здымаюць дзёрн і замест яго содзяць траву.

"Мы ўжо з сябрам пачалі выбіраць месцы, дзе будзем паркаваць свае машыны. Я выбраў месца каля бярозы і радаваўся гэтаму, бо вечарам свой мікрааўтобус у двары мне няма дзе прыпаркаваць. Суседнія стаянкі таксама забіты аўтатранспартам. Аднак нашы чаканні не спраўдзіліся – замест парковак будзе расці траўка", - кажа жыхар д.64 Дзмітрый.

Тым часам мясцовыя жыхары не здаюцца і абяцаюць, што працягнуць змагацца за паркоўкі.

# КАМУНАЛЬНІКІ ПАТРАБУЮЦЬ ПА 5 МІЛЬЁНАЎ З ТЫХ, ХТО ХОЧА НОВУЮ ПАРКОЎКУ

**Тых, хто не згодны плаціць такія грошы, яны прасілі падпісацца, што не падтрымліваюць будаўніцтва дадатковых парковак і знос дзіцячай пляцоўкі.**

Пра гэта паведамляюць жыхары дома 64 на праспекце Дзімітрава ў Магілёве. Ім давялося паразмаўляць са спецыяльнай камісіяй, якая разглядала калектыўны зварот грамадзян.

Афіцыйны адказ чыноўнікаў з гарвыканкаму выклікаў шквал абурэння сярод жыхароў дома. У дакуменце гаварылася, што 58 жыхароў дома выступілі супраць будаўніцтва парковак і зносу дзіцячай пляцоўкі.

Калектыўны зварот з просьбай пабудаваць дадатковыя паркоўкі ў двары дома, а таксама зрабіць капітальны рамонт двара падпісалі 200 жыхароў. У звароце не было ні слова пра знос дзіцячай пляцоўкі, бо яна ніяк не замінала пры будаўніцтве паркоўкі.

Як паведамляла Еўрарадыё, жыхары гэтага дома ўжо больш за тры гады змагаюцца за рамонт двара і будаўніцтва парковак. Уласнікаў аўтамабіляў у гэтым доме каля 200 чалавек, і месцаў для парковак катастрафічна не хапае.



# МАГІЛЁЎЦЫ ДАМАГЛІСЯ БУДАЎНІЦТВА ДАДАТКОВЫХ ПАРКОВАК У СВАІХ ДВАРАХ

**Дзеля гэтага жыхарам вуліцы 30 год Перамогі спатрэбілася сабраць 177 подпісаў.**



У адказе, які атрымалі жыхары ад магілёўскіх чыноўнікаў, гаворыцца, што будаўніцтва дадатковых паркавачных месцаў, а таксама стварэнне бесперашкоднага асяроддзя запланавана на 2014 год. Акрамя таго, камунальнікі прывялі ў парадак ліўнёўку, куды сцякаюць дажджавыя воды.

Жыхары дамоў 22а, 22б, 22в і 24а па вуліцы 30 год Перамогі такім рашэннем задаволеныя. Цяпер на чатыры іх дамы ёсць толькі 34 паркавачныя месцы, якіх хапае далёка не ўсім.

Варта адзначыць, што дапамагалі жыхарам вуліцы ў зборы подпісаў актывісты магілёўскага цэнтра “Імпульс”, які займаецца вырашэннем пытанняў па добраўпарадкаванні двароў.

# ЭКСПЕРТ ПРО ЖКХ: РЕФОРМИРОВАТЬ НЕЛЬЗЯ ЖИТЬ ПО-ПРЕЖНЕМУ

**Про особенности беларуского жилищно-коммунального хозяйства пишет кандидат экономических наук Пётр Мигурский.**



Особенность функционирования жилищно-коммунального хозяйства состоит в том, что его сфера деятельности касается не только населения города, но и почти каждого субъекта хозяйствования. Да и о руководстве города судят, прежде всего, по порядку на улицах и во дворах, по температурному режиму в квартирах и общественных зданиях, по качеству воды в кранах и соблюдению графика вывоза мусора. Более того, формируя свое мнение, жители в большей степени ориентируются на недостаточный уровень качества оказываемых услуг и их дороговизну. Впрочем, для этого есть все основания - по данным социологического опроса, проведенного в Могилеве в июле 2013 года по степени «проблемности» с точки зрения опрашиваемых, жилищно-коммунальное хозяйство уступает только системе здравоохранения. Жители обеспокоены состоянием жилых домов; качеством подготовки жилищного фонда города к осеннезимнему периоду; уровнем благоустройства улиц, состоянием дорог и их освещенностью, особенно, в частном секторе города; качеством предоставляемых услуг; благоустройством дворовых территорий и междворовыми проез-дами; обустройством зеленых зон отдыха. Могилевский горисполком неоднократно обращался к жителям с предложениями принять активное участие в благоустройстве города, наведении чистоты и порядка на его улицах и во дворах и подъездах, пошел даже на закрепление депутатов за объектами благоустройства.

Очевидно, что существующие проблемы в жилищно-коммунальном хозяйстве Могилева имеют системный характер и требуют внимательного изучения. При этом можно с уверенностью сказать, что недостаточный уровень качества оказываемых услуг жилищно-коммунальным хозяйством является следствием отсутствия эффективного механизма хозяйствования в целом по отрасли.




Основная же проблема заключается в неэффективности финансово-хозяйственной деятельности, вызванной совокупностью факторов, включая недостаточное финансирование предприятий и неполное выполнение финансовых обязательств со стороны населения. В тоже время эффективность работы предприятий ЖКХ зачастую связано с неумением и нежеланием чиновников горисполкома управлять жилищно-коммунальным комплексом города в интересах потребителей жилищно-коммунальных услуг. В данном ракурсе следует отметить отсутствие эффективной связи жилищно-коммунальной сферы с процессом управления городской недвижимостью. При этом, разный уровень качества и объемов оказываемых услуг по районам Могилева чаще всего связывается с отдельными неудачами руководителей и специалистов райисполкомов и жилищно-коммунальных предприятий, а не с системными недоработками отрасли в целом. Да и реформирование ЖКХ видится не в обеспечении рационального сочетания различных рычагов управления, его четкую целевую направленность на устойчивое развитие, в активизации общественного самоуправления, а в... уровне возмещения тарифами стоимости жилищно-коммунальных услуг, который еще в 2012 году должен был составить 35%. Этого не случилось, но правительство не устает будировать вопрос увеличения стоимости услуг и сейчас на повестке дня увеличение затрат на ЖКХ-услуги до 15% в потребительской корзине белорусов (в два раза).

**продолжение на стр.4**

Желание государства переложить бремя коммуналки на плечи потребителей (причем, по мировым расценкам), не создав для этого условий, имеет явно авантюристический характер.

На самом деле нельзя связывать напрямую показатель уровня возмещения стоимости услуг с их качеством. Наша система ЖКХ дотируется из бюджета, эти дотации растекаются по самой структуре в качестве покрытия убытков. В условиях рыночной экономики такой подход позволяет из убытков извлекать прибыли, то есть больше убытков – больше дотаций. Такой подход делает невыгодным эффективно работать и опасен с точки зрения коррупционной составляющей. Без решения проблем собственности в целом по экономике страны реформирование ЖКХ – нонсенс. Увеличение поступлений на счета ЖКХ-организаций от населения позволит снизить нагрузку на бюджет, но никак не приведет к увеличению финансовых ресурсов ЖКХ. Естественно, это никаким образом не повлияет на зарплату работников ЖКХ и качество их работы. Необходим иной механизм влияния на систему.



Особый мотив развития данной системы может быть задан в процессе перевода деятельности предприятий ЖКХ на предпринимательскую основу во взаимодействии с развитием самоуправления. Это будет способствовать быстрому развитию малого предпринимательства, конкуренции в предоставлении услуг ЖКХ, что обуславливает инвестиционную привлекательность новых проектов и реконструкции старых систем ЖКХ со стороны банков и частного бизнеса. Результатом станет повышение уровня потребления, качества и полезности услуг ЖКХ как главной цели данной системы.

Тем более, что определенный опыт в Могилеве уже имеется - в настоящее время в городе работает 11 частных организаций, на обслуживании которых находится 170 жилых домов. Более того, Могилев сегодня – единственный в Беларуси город, где частные обслуживающие компании составляют серьезную конкуренцию государственным жилищно-эксплуатационным организациям.

Правда, чиновники горисполкома считают, что полезность данного опыта слишком преувеличена. В частности, обращают внимание на то, что частные организации взяли на обслуживание новые дома и по прошествии времени, когда коммуникации станут приходить в негодность, можно будет предметно поговорить о перспективе частных организаций, альтернативных жилищно-эксплуатационным учреждениям. Стереотип, если коммунальное хозяйство отдать в частные руки – оно станет работать лучше, для системы ЖКХ не совсем подходит, во всяком случае, глобально проблемы решены не будут. Недаром ведь в Германии, где развит бизнес, коммунальным обслуживанием занимаются муниципальные предприятия, да и в России уже пересматриваются подходы к функционированию ЖКХ в пользу прежних государственных структур.

Существует и противоположное мнение, базирующееся на очевидных достижениях частной системы обслуживания. Пожалуй, главное отличие от государственных организаций в том, что собираемых в частной эксплуатационной организации средств хватает на покрытие всех расходов. Перечисляемые на капитальный ремонт деньги оперативно тратятся на его проведение, эффективно работает аварийная служба, техническое оснащение организаций находится на должном уровне.

Одно из завоеваний частного ЖЭС – прозрачная работа предприятия – житель любого обслуживаемого дома может в управлении организации ознакомиться с суммой потраченных денег на «его» дом. Благодаря прозрачности работы предприятия среди жителей домов фактически нет жалобщиков.

Для частных жилищно-эксплуатационных организаций и товариществ собственников главные сильные стороны – это высокое качество предоставляемых услуг, независимость, самостоятельность и гибкость в принятии решений и управлении, поэтому частные жилищно-эксплуатационные организации имеют хороший потенциал для развития.



Магілёўскі цэнтр стратэгічнага развіцця ІМПУЛЬС

**Галоўны рэдактар ВІТОЛЬД НЯЎРЫДА**

Бюлетэнь Магілёўскага цэнтра стратэгічнага развіцця «Імпульс»
Надрукавана ў Магілёве на ксераксе. Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюд бясплатны.
Выраблены пры тэхнічнай падтрымцы рэдакцыі газеты «НАШ Магілёў»
e-mail: gazetanm.eu@gmail.com